Дадатак да „Камунара Магілеўшчыны".

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

# ТЭРАРМЕЕЦ

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

№ 16 Серада 2 красавіка 1930 г. № 16

# ПА-БАЛЬШАВІЦКУ СТАЦЬ НА ЧАЛЕ СПАБОРНІЦТВА ПЕРАМЕНЬНІКАЎ

# Шырэй спаборніцтва і ўдарніцтва ў міжзборавай!

## Пашырым посьпехі збораў

Нядаўна часткі дывізіі правodзілі каротка-тэрміновыя зборы пераменьнікаў. Праведзеныя тактычныя запяткі і баявыя стрэльбы паказалі, што чырвонаармеец-пераменьнік да баявых дзеяньняў ва ўмовах характару сучаснага бою падрыхтаваны здавальняюча.

Яўка на зборы была сваечасовая і ў большасьці арганізаваная.

Побач з дадатнымі бакамі баявой падрыхтоўкі пераменьніка збор з усёй наяўнасьцю паказаў нашыя асобныя слабыя месцы. Так з часткамі, выконваўшымі стральбу на 75-99 процантаў, былі і такія, дзе стральба прайшла далёка не здавальняюча, як 20-30 процантаў.

Гэта ставіць перад начскладам і партарганізацыямі частак задачу: ужыць усе захады да ўзьняцьця на адпаведную вышыню стралковае справы з пераменьнікамі між зборамі.

На чарзе асноўных задач стаіць пытаньне мабілізацыі пераменьнікаў на актыўнае выкананьне задач, пастаўленых камуністычнай партыяй, па суцэльнай калектывізацыі вёскі, ліквідацыі кулацтва, як клясы. Асаблівай упартасьці ад нас вымушае работа па палітычнаму выхаваньню пераменьнікаў-не калгасьнікаў.

Дапамагчы, як мага хутчэй, разгарнуць вайсковую работу ў калгасах. Дабіцца арганізацыі бесперапыннай вайскова-палітычнай работы з усімі пераменьнікамі.

Сацспаборніцтва на зборах было разгорнута досыць шырока, што сьведчыць пра палітычную сьвядомасьць і вялікую актыўнасьць байца-пераменьніка.

Накіруем гэтую актыўнасьць па лініі сацспаборніцтва між зборамі, каб хутчэй зьнішчыць маючыяся недахопы ў баявой падрыхтоўцы пераменьніка.

## Прадвясеньняе...

**Трэсты, заводы і руднікі з усіх канцоў Саюзу тэлеграфуюць аб безнадзейным становішчы з-за непадачы вагонаў, а ў грузавой частцы НКШЗ усё тлумачаць... заносамі.**

(Газэта „ЗА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЮ").

*Мал. К. РОТАВА*



— На што мы цяпер будзем усе грахі звальваць? Сьнегавыя заносы канчаюцца.

— Чудак!.. Канчаюцца сьнегавыя, а папяровыя—навошта?

## 2 кульрота—ударная

Пяцідзённы збор нашае кульроты прайшоў пасьпяхова, па ўдарнаму.

Праведзеная стральба яшчэ раз падкрэсьліла, што наш пераменьнік страляць не забыўся. Напрыклад, 2 кульрота № Аранбурскага палка 5 практываньне новага курсу выканала на 80 процантаў, а 3 практываньне на 91,4 процанта.

Праведзеная баявая стральба на атрадным вучэньні дала таксама добрыя вынікі, яна паказала, што пераменьнік можа пры самых цяжкіх абставінах добра забясьпечыць агнём перасуваньне стралкоў, страляючы ў інтэрвал і праз галовы сваіх стралкоў.

Кулямётчыкі роты на 95 процантаў падпісаліся на газэту „Чырвонаармейская Праўда", менш як на тры месяцы ніхто не падпісаўся.

Рота абвясьціла сябе ўдарнай па пытаньнях: наладжваньне і ажыўленьне работы вайсковых гурткоў і ячэек ТДА-Авіяхэму, замацаваньне арганізаваных калгасаў, растлумачэньне новага статуту сельска-гаспадарчай арцелі.

*П. Г.*

# Баявая падрыхтоўка ў асяродку ўвагі!

# Вышэй узьнімем стралковую справу

## Навярстаць упушчанае

З 20 па 23 сакавіка ў кавалерыйскім эскадроне праводзіліся трохдзённыя зборы пераменьнікаў.

Зборы яшчэ лішні раз падкрэсьлілі слабасьць міжзборавае работы. На сходзе некаторыя чырвонаармейцы пераменьнікі скардзіліся, што ім ня было ніякай дапамогі і ніякага кіраўніцтва і гэта праўда. Вось факты. За ўсю зіму з пераменьнікамі не праводзілі ні разу занятак на вайскова палітычныя тэмы. Індывідуальных заданьняў не давалі. Уплыў кадру на пераменьнікаў недастатковы.

Пераменны склад эскадрону яшчэ ня досыць актыўна ўдзельнічае ў калгасным будаўніцтве. На сёньняшні дзень толькі чацьвертая частка пераменьнікаў уступіла ў калгасы.

Гэта тым больш вьвўляецца недапушчальным яшчэ і таму, што раён камплектаваньня ад эскадрона ляжыць у 1 гадзіне верхавой язды.

Зараз пераменьнікі арганізаваны ў групы, вылучаны старшыя, далі кожнаму байцу заданьні. Засталося ўзяцца за рашучае правядзеньне ўсяго намечанага ў жыцьцё, каб навярстаць упушчанае.

Галоўную ўвагу трэба зьвярнуць да выхаду ў лягэр на баявую падрыхтоўку і расгулмачэньне гэнэральнай лініі камуністычнай партыі ў сацыялістычнай перабудове вёскі.

*Э—н.*

## Пара прачнуцца

На сёньня па Машавацкаму сельсавету Лупалаўскага раёну сярод пераменьнікаў налічваецца толькі 30 процантаў калгасьнікаў.

Нават адстаюць пераменьнікі, маючыя свае ўласныя гаспадаркі, якіх увайшло ў калгасы толькі 18 процантаў. Пераменьнікі - чырвонаармейцы Машанацкага сельсавету цягнуцца ў хвасьце калектывізацыі, нават тыя, хто ўвайшоў у калгас, праяўляюць хістаньне, частка з іх хоча зусім выйсьці з калгасу.

Факты недапушчальна ганебнага адставаньня пераменьніка ад калектывізацыі сьведчыць аб слабай выхаваўчай рабоце з імі нашага кадру між зборамі.

Пара прачнуцца, таварышы пераменьнікі, ваш сельсавет ганебна адстае ў калектывізацыі ад іншых раёнаў.

*Саўткін.*

## Забясьпечылі арганізаваную яўку

Сельскія саветы Лупалаўскага раёну добра правялі падрыхтоўчую работу да каротка-тэрміновых збораў палка. Своечасова ўсіх апавясьцілі, шмат сельсаветаў прыводзілі сваіх пераменьнікаў арганізавана, камандамі.

Дзякуючы арганізаванай яўцы, мы былі здольны прыступіць да занятках дакладна ў вызначаны час.

Трэба і надалей сельсаветам актыўна дапамагаць палку па баявой падрыхтоўцы пераменьнікаў.

*С-кін.*

## Першае месца

На трохдзённых зборах нашага дывізіёну пераменьнікі з вялікаю ахвотаю падпісаліся на „Чырвонаармейскую Праўду“. Так, па разьдзелу ўправы дывізіёну яны падпісаліся на 35,5 процантаў, 4 батарэя на 62 проц анта, 5 батарэя—70 процантаў, 6 батарэя—86 процантаў.

Батарэі 2 дывізіёну па падпісцы на „Чырвонаармейскую Праўду“ займаюць у палку 1 месца.

*Драбышэўскі.*

## 5 батарэя ўперадзе

У час збору 2 дывізіён артпалка праводзіў сярод пераменьнікаў заняткі па стральбе з вінтовак. Першае практыкаваньне пачатковых стрэльб новага курсу дало ў выніку па 4 батарэі 25,7 процантаў, па 6 батарэі—21,6 процантаў, разьдзелу ўпраўленьня дывізіёну—31 процант і па 5 батарэі—45 процантаў. Хоць 5 батарэя і ідзе наперадзе, але гэтую перамогу нельга назваць вялікаю, бо 45 процантаў—гэта яшчэ вельмі мала. Асабліва трэба падцягнуцца 4 і 6 батарэям, а 5 яшчэ больш падняцісцуць на работу з пераменьнікамі між зборамі, каб на бліжэйшым зборы даць не 45 процантаў, а 90.

*Г. Д.*

## Стралялі здавальняюча

Трохдзённыя зборы пераменьнікаў кавэскадрону прайшлі з посьпехам. Яўка была добрая, своечасовая.

Калі ў першы дзень на тактычных занятках кавалерысты дзейнічалі млява, слаба маскіраваліся, былі выпадкі недакладнага выкананьня заданьняў, дык на другі дзень наадварот пераменьнікі дзейнічалі энэргічна, лепей маскіраваліся і добра прыстасоўваліся да мясцовасьці, адступленьне было добра арганізаваным

Стральбу эскадрон выканаў на 63 процанты. На „Чырвонаармейскую Праўду“ падпісалася 85 процантаў пераменьнікаў эскадрону. Асабліва трэба адзначыць 3 разьдзел, байцы якога падпісаліся на 100 процантаў. Шмат таварышоў выпісала на 6 месяцаў і на год.

Не заспакойвацца на дасягнутых посьпехах, а ўпарта працаваць над баявой падрыхтоўкай пераменьніка—задачы кадру.

*Эскадронец.*

## Трэба ўзмацніць сувязь!

Пераменны склад нашага палка не падтрымлівае штодзённай сувязі з кадрам палка, з сваімі дывізіёнамі.

Сувязь пераменьнікаў з сваёй часткай, галоўным чынам, праходзіць у пэрыяд выезду кадра на раён для правядзеньня каротка-тэрміновых збораў.

Пераменьнік часта бывае ў горадзе, але ў частку, як правіла, не заходзіць, ня цікавіцца, як з кадрам праходзіць вайскова-палітычная вучоба.

У пэрыяд агульных збораў і збораў рэкрутаў шмат пераменьнікаў прымае актыўны ўдзел ў вайскова-палітычнай рабоце, пішуць і Ільлічоўкі і шматтыражную палка, а паміж зборамі гэтая работа паміраө.

Недахоп вялікі, яго трэба цалкам зьнішчыць. Ня толькі кадр павінен падтрымліваць шчыльную сувязь з пераменьнікам на раёне, таксама і пераменьнік мусіць трымаць сталую сувязь з палком і—ў першую чаргу з сваім падраздзяленьнем, ён павінен ведаць жыцьцё, быт і вучобу сваёй часткі.

*С—н.*

# Пераменьнік, будзь застрэльшчыкам у сацыялістычнай перабудове вёскі!

## На чорную дошку

Пераменьнікі ўправы першага дывізіёну—таварышы Уколаў і Ігнатаў у дзень правядзеньня дывізіёных баявых артылерыйскіх стрэльб утварылі самаўласную адлучку. Яны наўмысна ўлізнулі ад 30 кілёмэтравага пераходу і ўдзелу ў баявых стрэльбах.

Уколаў і Ігнатаў забыліся, што яны зьяўляюцца чырвонаармейцамі-пераменьнікамі, паклаўшымі сваім учынкам ганебную пляму на дывізіён. Няўжо яны ня ведалі, што сваёй недысцыплінаванасьцю дапамагаюць не працоўным, а клясавым ворагам.

Чырвонаармейцы-пераменьнікі дывізіёну ўчынак Уколава і Ігнатава ацанілі, як дэзэртырства, яны патрабавалі ад камандваньня суровага пакараньня парушыцеляў дысцыпліны—Уколава і Ігнатава.

Такія пераменьнікі варты быць занесенымі на чорную дошку! *Саўткін.*

## Шкадуе кулака

У час каротка-тэрміновага збору чаш разьдзел разьмяшчаўся ў хаце раскулачанага кулака. Дровы для кухні з дазволу сельсавета бралі ў высяленага кулака. Усе чырвонаармейцы лічылі гэта правідловым, а т. Хацяймцаў гаварыў: „што гэта, 1918 г., ці што? чалавек нарыхтаваў дровы для сябе, а тут іх баруць дарэмна“.

Трэба давесьці т. Хацяймцаву, што працоўныя ня могуць і не павінны шкадаваць клясавых ворагаў. Хай Хацяймцаў падумае, ці шкадуе буржуй рабочага, калі выганяе яго з фабрыкі на вуліцу, альбо абшарнік,—забраўшы зямлю ў працоўных сялян?

*Выведчык.*

## Ганьба лайдакам!

Некаторыя пераменьнікі ўправы 3 дывізіёну артпалка па сканчэньні трохдзённага збору арганізавалі выпіўку гарэлкі.

Замест таго каб выпісаць дамоў газэту, яны зьявіліся п'янымі.

Пераменьнікі 3 дывізіёну мусіць забыліся, што яны сваім учынкам ганьбуюць назву чырвонага байца.

Сваю памылку яны павінны выправіць прыкладнай работай між зборамі, каб прыйсьці на агульныя зборы ня з клічкай „лайдака“, а дысцыплінаванымі чырвонаармейцамі-пераменьнікамі. *С.*

## 6-е сакавіка ў Нью-Ёрку



**На здымку:** паліцэйскія і агенты паліцыі ў пагоне за ўдзельнікамі дэманстрацыі беспрацоўных.

## Пра падкулачніка Загурскага

У кавэскадроне ёсьць пераменьнік Загурскі, які толькі і займаецца размовамі супроць калгасаў. Ён заяўляе: „Савецкая ўлада рабуе культурных сялян“. Загурскі пад „культурных сялян“ падводзіць кулакоў, бо па яго думцы, ў нас наогул няма кулакоў, а ёсьць стараныя культурныя сяляне.

Сам Загурскі жыве на хутары, мае заможную гаспадарку, вось пагэтаму ён і выступае супроць калгасаў і пагэтаму так старанна абараняе раскулачаных клясавых ворагаў-кулакоў.

Калі Загурскі ўбачыў, што яго ніхто з пераменьнікаў не падтрымаў, ён больш не ўпамінаў пра „культурных сялян“. Але сваёй лініі ня кінуў, ён толькі пераманіў тактыку. Расказваючы розныя байкі пра калгасы, ён дадаваў: „гэта гаварыў бядняк і серадняк, а я ня супроць калгасаў“.

Загурскі добра разумее, што кулацтва ёсьць, але яму карысней у яго агітацыі гаварыць, што кулакоў няма.

Выкрыты перад пераменьнікамі, ён на апошні дзень збораў прыкусіў язык, але гэта ня значыць, што Загурскі кіне выступаць супроць калгасаў, супроць сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Такіх, як Загурскі, трэба выкрываць штодзённа на кожным кроку перад пераменьнікамі эскадрону і працоўнымі масамі сялян таго раёну, дзе жыве Загурскі.

*Два.*

## „Я не я, і конь ня мой...“

Ячэйка ТДА-Авіяхэму Расмасдору мае ўсе падставы для самага шырокага разгортваньня вайсковай работы сярод рабочых і служачых. Ячэйка налічвае ў сваіх шэрагах 150 сяброў, сярод якіх каля 15 камандзіраў запасу. Але, мусіць, адных спрыяючых умоў для работы мала, трэба яшчэ і жаданьне працаваць па сапраўднаму не на словах, а на справе.

Так, маючыяся вайсковыя гурткі больш лічуцца ў справах ячэйкі, чымся жывуць і існуюць на самой справе. Работу гурткоў можна назваць нікудышнай. Да гэтага часу ячэйка нават не сабрала грошай за білеты лёгарэі. Наогул, кажучы коротка, ніякай сапраўднай вайсковай работы на Расмасдоры няма. Сувязь з вайсковай часткай падтрымліваецца дрэнна.

Кіраўнікі з Расмасдору нават лічаць і думаюць, што за работу ТДА-Авіяхэму адказваюць не яны, а вайсковая частка, якая трымае з імі сувязь. Мусіць, на Расмасдоры прытрымліваюцца паговоркі—„Я не я і конь ня мой“.

*Д.*

## Пераменьнікі-ўдарнікі

Актывісты пераменьнікі 5 батарэі эртпалка: т. т. Воўкаў, Бушлякоў, Рогачоў, Мацькоў, Казлоў, Абрамаў, Філімончыкаў, Дзяручанка, Пракапнёў, Сямёнаў, Капорыкаў, Цімкоў, Сьвірыдаў, Крывянкоў і Лакустаў абвясьцілі сябе ўдарнікамі.

Усю паміжзборавую работу ўдарнікі-пераменьнікі пастанавілі весьці па-ўдарнаму. Яны склалі ўмову па сацспаборніцтву, якую абавязаліся выканаць няўхільна. У дагаворы вызначаны гэткія пункты: узмацніць у паміжзборавы пэрыяд сваю тактычную падрыхтоўку, ліквідаваць стралковую слабасьць, актыўна ўдзельнічаць у гуртках вайсковых ведаў і ячэйках ТДА-Авіахэму, на 100 процантаў уцягнуць пераменьнікаў у калгасы, актыўна дапамагаць калгасу ў правядзеньні пасеўнай кампаніі, запахаць вайсковую дзесяціну ў калгасе.

Гэты дагавор пераменьнікі-ўдарнікі абгаварылі на агульным сходзе батарэі. Байцы прынялі дагавор цалком і выклікалі на выкананьне яго 6 батарэю, 6-ая выклік 5-й прыняла. Цяпер выбранаму штабу сацспаборніцтва трэба пільней прасачыць за тым, як выконваецца дагавор.

*Драбышэўскі.*

## Рэалізацыя білетаў 4-й лётарэі ТДА-Авіахэму

Білетаў 4-й лётарэі ТДА-Авіахэму Магілеўскай акругай атрымана 21000, рэалізавана-ж на сёньняшні дзень—9514. Рэалізацыя білетаў праводзіцца ячэйкамі ТДА-Авіахэму. Адной з лепшых ячэяк па рэалізацыі білетаў зьяўляецца ячэйка ЦРК, якая рэалізавала 700 білетаў, супроць кантрольных 500, за ёй ідзе шоўкавая фабрыка.

Адным з лепшых раёнаў па распаўсюджаньні зьяўляецца Касьцюковіцкі.

Ім атрымана і распаўсюджана 2100 білетаў, і нават маецца запыт на новыя. Дрэнна абстаіць справа з распаўсюджаньнем па лініі паштовага ведамства—рэалізавана толькі 252 з выдадзеных 6000, і па лініі ашчадкасы—з 3000 білетаў рэалізавана 99.

Тормазам у распаўсюджаньні білетаў у апошніх установах зьяўляецца дрэнная праца сяброў ТДА-Авіахэму, упаўнаважаных па гэтай справе.

## Нашым карэспандэнтам

Аляксееву („Падрыхтоўка да выезду на раён“, „Праца ў час выезду“) не маглі своечасова скарыстаць. Гіц („Камунар“) перадайце ў шматтыражку. Філатаву („Дзіцячая пляцоўка ДЧА) перадалі нач. ДЧА. Барысаву („Кулацкі падгалосак — Сідляроў“) аб гэтым ужо было.

## Пераменьнік, выпісвай сваю газэту!

Прыкладна каля 1400 экзэмпляраў „Чырвонаармейскай Праўды“ выпісалі байцы-пераменьнікі часьцей нашай дывізіі ў час каротка-тэрміновых збораў. Большасьць пераменьнікаў газэту выпісала да агульнага збору на тры месяцы і досыць значная частка выпісала на 6 і 12 месяцаў. Але, трэба сказаць, што 1400 экзэмпляраў—лічба вельмі малая, яна нас задаволіць ня можа. Мы зараз павінны паставіць сабе мэтаю — давесьці падпіску на „Чырвонаармейскую Праўду“ да кожнага чырвонаармейца-пераменьніка.

„Чырвонаармейская Праўда“ гэта газэта, якая амаль што выключна ні а пра жыцьцё і баявую падрыхтоўку нашага Беларускага корпусу. Вядома, што кожнаму пераменьніку будзе цікава чытаць і ведаць жыцьцё сваёй часьці, дывізіі і корпусу. „Чырвонаармейская Праўда“ будзе лепшым сродкам беларусізацыі, значна прыяць баявой падрыхтоўцы і клясаваму выхаваньню пераменьніка. Яна, між іншым, самая танная газэта (10 кап. у месяц), і з гэтага боку яе распаўсюджаньне ня сустрэне ніякіх затрымак.

Зборы паказалі, што ні адну газэту пераменьнікі ня выпісвалі з такім вялікім жаданьнем і ахвотаю, як «Чырвонаармейскую Праўду», і толькі таму часьці далі невялікую колькасьць падпісчыкаў, што не разгарнулі растлумачальнай работы.

Кожны чырвонаармеец-пераменьнік павінен выпісаць сваю беларускую вайсковую газэту „Чырвонаармейскую Праўду“. Задача пачскладу-арганізаваць гэтую справу.

*В. Сень.*

## Падтрыманьне кулака

Працоўныя масы сялянства Чэрыкаўшчыны рашуча і беспаваротна пайшлі па сацыялістычнаму шляху разьвіцьця вёскі. І вось у такі момант знаходзяцца асобныя чырвонаармейцы-пераменьнікі, выступаючыя супроць калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Пераменьнікі з вёскі Галоўчыцы т. Старавойтаў Паўлюк, Старавойтаў Нічыпар і Райкоў Алесь цягнуцца ў хвасьце.

Ім мала таго, што самі ня ўступілі ў калгас, яны яшчэ хочуць, каб ніхто ня ішоў у калгас.—„Калгасы не патрэбны“,—кажуць яны,—„можа абыйсьціся і бяз іх“.

Трэба давесьці пераменьнікам Галоўчыцы шкоднасьць іх выступленьняў супроць калгасаў.

*Пераменьнік.*

## Дапамагаюць на справе

Шырока разгарнуць вайсковую прапаганду, па сапраўднаму паставіць ваенізацыю працоўнага насельніцтва можна толькі на падставе яе забесьпячэньня сродкамі.

Гэта добра зразумелі таварышы з Галоўчынскага і М-Кудзінскага сельсаветаў.

Так, на забесьпячэньне ваенізацыі Галоўчынскі сельсавет адпусьціў 283 руб. 50 кап. Акрамя гэтага, каапэрацыя з сваіх сродкаў асыгнавала 40 руб., крэдытнае таварыства 35 руб., малочнае таварыства—15 руб., абутная арцель 5 руб., Мала-Кудзінскі сельсавет—135 руб.

Зараз у Галоўчынскім сельсавеце налічваецца 6 дробнакалібэрных вінтовак, якія забясьпечаны набоямі, а ў Мала-Кудзінскім сельсавеце 2 вінтоўкі і 2.000 набояў.

Астатнім сельсаветам трэба браць прыклад з Галоўчынскага і М.-Кудзінскага сельсаветоў, якія на справе дапамагаюць абароне краіны саветаў.

*П. Гіц.*